# РЭГІЯНАЛЬНАЯ Беларусь

Бюлетэнь
Каардынацыйнага Камітэта
"Гродзенская ініцыятыва"

Май
2001 г.
№5(14)

## Беларусь чакае пераменаў!

## АБ'ЯДНАЦЦА ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ

26 мая ў Мінску адбыўся з'езд грамадскасці рэгіёнаў Беларусі. 815 дэлегатаў прадстаўлялі ўсе вобласці краіны, ці амаль 100 раёнаў Беларусі. 545 дэлегатаў былі вылучаны няўрадавымі грамадскімі арганізацыямі.

Гродзеншчына накіравала на форум 115 чалавек.

Былі абраны рабочыя органы з'езда, рэдакцыйная і мандатная камісіі.

Дэлегаты ў сваіх выступленнях прааналізавалі грамадска-палітычны і эканамічны стан у сваіх абласцях, паведамілі аб падрыхтоўцы да маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў, выказалі свае наказы, звароты, пажаданні, прапановы ў будучую перадвыбарную праграму магчымага кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы экс-старшыні Гродзенскага аблвыканкама, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання, старшыні Каардынацыйнай Рады "Рэгіянальная Беларусь" Сямёна Мікалаевіча Домаша.

С.М.Домаш выказаў падзяку дэлегатам за актыўную падтрымку магчымаму вылучэнню яго кандыдатуры на выбарах-2001. У сваім дакладзе тэзісна пазначыў першачарговыя задачы, якія павінны рашаць новы беларускі прэзідэнт, кааліцыйны ўрад, дэмакратычны парламент і ўвесь народ у выпадку прыходу да ўлады прадстаўніка шырокай народнай кааліцыі.

На з'ездзе прысутнічала каля 40 журналістаў са СМІ Беларусі і замежных краін. Яны бралі ўдзел у прэсканферэнцыі, праведзенай Сямёнам Домашам.

*(Працяг тэмы на 2-й– 7-й стар.)*




## ПЕРАМОГА ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ З НАМІ!

Старшыня Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва", магчымы кандыдат на пасаду прэзідэнта на выбарах 2001 года Сямён Домаш напярэдадні 9-га Мая павіншаваў усіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з Перамогай.

Вядомы палітык адзначыў, што мужнасць былых воінаў у бітве з фашызмам служыць прыкладам для пасляваенных пакаленняў. Удзельнікі вайны, на жаль, не заўсёды мелі тых адносінаў да сябе, якіх заслужылі. Многія зведалі горыч няўвагі і крыўд.

Сямён Домаш усклаў кветкі на Вайсковых могілках у Гродне. Даніна павагі да памяці абаронцаў Радзімы ў роўнай меры адносіцца і да яго бацькі – Мікалая Іванавіча, ветэрана і інваліда Вялікай Айчыннай, які памёр менш, чым два гады назад.

Ваенную спецыяльнасць мае адзін з сыноў Сямёна Домаша – Дзмітрый. Ён закончыў Мінскае Вышэйшае інжынернае зянітна-ракетнае вучылішча, майстар спорту па плаванні і афіцэрскім шматбор'і.

**Уладзімір Кавалёў**

## ГОД СУМЕСНЫХ ДЗЕЯННЯЎ



18 мая 2000 года паўнамоцныя прадстаўнікі рэгіянальных аб'яднанняў дэмакратычных партыйных, грамадскіх і прафсаюзных арганізацый стварылі Каардынацыйную Раду "Рэгіянальная Беларусь". Гэта не новая грамадская арганізацыя, а форма супрацоўніцтва паміж шматлікімі грамадскімі аб'яднаннямі краіны.

**На здымку:** удзельнікі гродзенскай нарады. Злева направа – **Мікалай Дзялендзік (Салігорск), Вадзім Баршчэўскі (Віцебск), Сяргей Мальчык (Гродна), Аляксандр Катляроў (Слуцк), Віталь Васількоў (Магілёў), Анатоль Фёдараў (Магілёў), Анатоль Аскерка (Барысаў), Іосіф Навумчык (Віцебск), Станіслаў Суднік (Ліда), Сямён Домаш (Гродна), Алег Грамыка (Гомель), Віктар Карнеенка (Гомель), Рыгор Бакіевіч (Брэст), Аляксандр Капуцкі (Маладзечна).**

**Фота Ул. Выдзеркі**

## Беларусь чакае пераменаў!

*(З выступлення Сямёна Домаша)*

Чаму я прыняў рашэнне ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах? Не сумняваюся, што нас аб'ядноўвае пачуццё грамадзянскай адказнасці за лёс нашай Радзімы. І адначасова пачуццё горычы за тое, што Беларусь стала полем чарговага нецывілізаванага сацыяльнага эксперыменту. Сёння велізарная частка творчага і маральнага патэнцыялу грамадзянаў заблакавана. Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што апошнія сем гадоў сталі самым цяжкім перыядам у гісторыі Беларусі.




Цяпер бачны поўны правал эканамічнай палітыкі першага прэзідэнта Беларусі, не здатнага працаваць без надзвычайных мер. Улада апынулася ў руках невялікай групы людзей, якія не маюць вопыту дзяржаўнага кіраўніцтва. Дзейнасць цяперашняга кіраўніка Беларусі, які ўтрымлівае ўладу незаконна, стварае сур'ёзную пагрозу беларускай дзяржаўнасці. Ужо некалькі гадоў краіна знаходзіцца фактычна ў міжнароднай ізаляцыі, выпадае з працэсаў сусветнага развіцця.

# МЫ ПАБУДУЕМ НОВУЮ БЕЛАРУСЬ!

Небяспечным для нашага народа з'яўляецца канстытуцыйна-прававы крызіс. У лістападзе 1996 года ў краіне адбыўся дзяржаўны пераварот. Была ліквідавана прадстаўнічая ўлада, дэмакратыя і прававая дзяржава. Не дзейнічае прынцып вяршынства закона. Улады не выконваюць нават Канстытуцыю, якая была ўведзена ў выніку перавароту. Права стала інструментам палітычнай барацьбы. Сёння на Беларусі быць кіраўніком любога ўзроўню – адзін з самых небяспечных заняткаў. Усе гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах тэрору кантралюючых ворганаў.

Усё гэта прывяло да рэзкага пашырэння сацыяльнага напружання. Таму грамадства знаходзіцца перад гістарычным выбарам, чакае пераменаў.

З усёй адказнасцю заяўляю, што я і тыя людзі, якія ідуць разам са мной, ведаем, як гэтыя перамены ажыццявіць.

Перш за ўсё, трэба пераадолець раскол нашага грамадства. Дзяржавай павінны кіраваць прафесіяналы. Патрэбны ўрад народнага даверу, у склад якога павінны ўваходзіць прадстаўнікі розных палітычных сілаў.

Рэформы будуць паступовымі і паслядоўнымі. Пры гэтым трэба скараціць колькасць падаткаў. Мы выкарыстаем станоўчы вопыт нашых суседзяў, а таксама ўлічым памылкі, каб іх пазбегнуць.

Недахоп энергетычнай і сыравіннай базы будзе кампенсаваны адкрытасцю эканомікі, лібералізацыяй знешнеэканамічнай дзейнасці, стымуляваннем замежных інвестыцый.

Неабходна ліквідаваць усе перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва, зменшыць колькасць ліцэнзій, спрасціць заканадаўства, увесці заяўны прынцып стварэння юрыдычных асобаў. У сельскай гаспадарцы трэба зыходзіць з прынцыпу свабоднага выбару формаў гаспадарання на зямлі.

Будзе створана справядлівая сістэма сацыяльнага забеспячэння. Жыллёвая праблема вырашыцца з дапамогай фінансава-крэдытных установаў: іпатэчных і камунальных банкаў, кватэрных ашчадна-заемных кас. Патрэбна павялічыць у дзяржаўным бюджэце выдаткі на ахову здароўя, развіваць страхавую медыцыну, узнавіць поўнае фінансаванне скарочаных у апошнія гады чарнобыльскіх праграм.

Фінансаванне адукацыі і навукі трэба лічыць стратэгічным кірункам. Неабходна стымуляваць недзяржаўныя інвестыцыі ў адукацыю і падрыхтоўку спецыялістаў. Па майму разуменню, трэба ўзяць кірунак на самакіраванне ВНУ.

Патрабуецца канстытуцыйная рэформа, аднаўленне паўнавартаснага Парламенту, правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў на аснове прапарцыйна-мажарытарнай сістэмы, стварэнне сапраўдных незалежных судоў. Без гэтага немагчыма прававая дзяржава.

У краіне будзе забяспечаны прынцып падзелу ўладаў. Многія паўнамоцтвы прэзідэнта пяройдуць ураду і парламенту. Неабходна пашырыць правы органаў мясцовага самакіравання, іх паўнамоцтвы, фінансавую самастойнасць. Трэба пераўтварыць мясцовыя Саветы ў рэальныя органы ўлады.

Абвяргаю сцвярджэнне, што новы прэзідэнт разгоніць усіх работнікаў вертыкалі. Заяўляю аб будучым увядзенні выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў улады, як гарантыю іх працы ва ўладных структурах. Тым, хто карыстаецца павагай і аўтарытэтам у людзей, няма чаго баяцца за сваю пасаду.

Мы павінны дапамагчы міліцыі і спецслужбам скараціць іх колькасць да адпаведных памераў, на прыкладзе цывілізаваных краін. Пры гэтым забяспечыць годнай працай тых, хто будзе звальняцца. На працягу пяці гадоў неабходна перайсці да прафесійнай арміі, пашырыць сацыяльныя гарантыі вайскоўцам, дзяржаўнае страхаванне іх жыцця і здароўя. Будуць рэалізаваны спецыяльныя

прaграмы па вырашэнні праблем моладзі і жанчын. Моладзь павінна бачыць перспектывы жыцця ва ўласнай краіне, а не імкнуцца да эміграцыі.

Для забеспячэння свабоды слова трэба рэзка абмежаваць кантроль органаў улады над СМІ. Кантроль над Белтэлерадыёкампаніяй будзе перададзены грамадскаму наглядальнаму Савету, створанаму на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў органаў улады, партый, грамадскіх арганізацый, журналісцкіх саюзаў.

Адным з галоўных накірункаў знешняй палітыкі будзе замацаванне добрасуседскіх і ўзаемавыгадных палітычных і эканамічных адносін з Расіяй. Наша канцэпцыя будзе грунтавацца на наступных прынцыпах:

- сяброўскія адносіны з Расіяй пры забеспячэнні суверэнітэту Беларусі;
- адмова ад палітычных, прапагандысцкіх гульняў, якія вядзе зараз кіраўніцтва Беларусі;
- акцэнт на эканоміку, а не на падпісанне віртуальных палітычных дамоваў;
- змяненне лозунга “Беларусь з Расіяй — супраць Еўропы і Захаду” на лозунг “Беларусь – мост паміж Еўропай, Захадам і Расіяй”;
- Узаемавыгадная эканамічная інтэграцыя павінна распаўсюджвацца таксама на ўсе суседнія краіны, еўрапейскія дзяржавы.

Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду Прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследаванне стану псіхічнага здароўя.

Будучае кіраўніцтва дзяржавы вялікую ўвагу зверне на ўзровень маралі нашага грамадства, асабліва моладзі. Улады павінны ствараць умовы для развіцця рэлігійных канфесій, аказваць ім дапамогу і супрацоўнічаць з імі.

**Зразумела, што гэта не канчатковая праграма будучых пераўтварэнняў. Тут выкладзены прынцыповыя падыходы да канцэпцыі, якая распрацоўваецца камандай Сямёна Домаша, з якой магчымы кандыдат пойдзе на выбары. Дакладчык адзначыў: “Калі мы ўсе разам будзем працаваць на перамогу – мы абавязкова пераможам”.**

# *Беларусь чакае пераменаў!*

## “У НАС ЁСЦЬ СВОЙ КАНДЫДАТ”


Віктар Карнеенка

Адкрываючы з’езд, старшыня аргкамітэта па яго падрыхтоўцы і правядзенні, старшыня Гомельскага грамадскага аб’яднання “Грамадзянскія ініцыятывы” Віктар Карнеенка падкрэсліў, што ініцыятарам форуму з’яўляецца кіраўніцтва Каардынацыйнай Рады грамадзянскай ініцыятывы “Рэгіянальная Беларусь”.

Менавіта сучасны стан грамадства, магчымасць паляпшэння ўмоваў жыцця грамадзян Беларусі пастаянна знаходзіцца ў полі зроку Каардынацыйнай Рады, створанай роўна год таму ў Гродне.

Прыклад для аб’яднання паклала стварэнне ў сакавіку 1997 года Каардынацыйнага камітэта “Гродзенская ініцыятыва”. Па гэтаму шляху пайшлі ў іншых рэгіёнах краіны. Пасля на парадак дня паўстала неабходнасць ўзгодненасці дзеянняў. Супрацоўніцтва прадэманстравала вялікую моц рэгіянальных няўрадавых арганізацый, заклікала да больш цеснага ўзаемадзеяння. Тады нарадзілася ідэя стварэння Каардынацыйнай Рады “Рэгіянальная Беларусь”. 18 мая 2000 года паўстала Каардынацыйная Рада “Рэгіянальная Беларусь”.

16 студзеня 2001 года ў Мінску адбылося яе чарговае пашыранае паседжанне. Больш як 30 лідэраў дэмакратычных грамадскіх арганізацый, незалежных прафсаюзаў і палітычных партый прынялі заяву ў падтрымку Сямёна Домаша як магчымага кандыдата на пасаду прэзідэнта ад шырокай народнай кааліцыі. Пры гэтым, падкрэсліў Віктар Карнеенка, мы вітаем згуртаванне сілаў дэмакратычнай “пяцёркі” – Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Паўла Казлоўскага, Сяргея Калякіна і Міхаіла Чыгіра.

Аднак сёння, на з’ездзе, нам трэба абгаварыць тактыку, выказаць свае думкі і парады нашаму магчымаму вылучэнцу на пасаду прэзідэнта Беларусі — Сямёну Домашу.

## СУСТРАКАЦЦА, ГУТАРЫЦЬ І ПЕРАКОНВАЦЬ

Каб перамагчы на маючых адбыцца выбарах, кандыдату ў прэзідэнты трэба набраць 50 плюс адзін голас. Інакш не пераможам. Сітуацыя сёння падказвае, што шанцы выйграць у нас ёсць. Згодна апытанняў, 80 працэнтаў жыхароў Мінска не хочуць галасаваць за Лукашэнку. У нас у Магілёве такой пазіцыі прытрымліваецца 60 працэнтаў. Такая карціна паўсюдна.

Аднак трэба працаваць яшчэ больш дынамічна. Неабходна дайсці да “сярэдняга” грамадзяніна Беларусі. Менавіта гэты слой насельніцтва не вызначыўся з выбарам. Ён супраць Лукашэнкі, але не ведае за каго іншага аддаць свой голас. Дэмакратычнаму кандыдату надзвычай цяжка давесці свае погляды, выкласці праграму людзям, якія жывуць у рэгіёнах. Дзяржаўнае радыё, тэлебачанне, газеты не спрыяюць гэтаму, і не будуць спрыяць нават пры ўмове рэгістрацыі нашага кандыдата ў прэзідэнты. Таму трэба выкарыстоўваць іншыя магчымасці. Іх нямала.

Турбуе той факт, што яшчэ дзенідзе можна прачытаць, што беларускі выбаршчык неразумны, занадта талерантны, абыякавы, бо “не таго выбірае”. Думаю, што трэба размаўляць з грамадзянамі, знаходзячы добрыя словы, пакінуць пустазвонства. Наш чалавек заслугоўвае самай лепшай ацэнкі. Каб ён думаў нашымі катэгорыямі, трэба дайсці да яго, пагутарыць з кожным, нават пасправацца. Тады можна спадзявацца на рэальную падтрымку.

**Валерый Сівуха**
Магілёўская вобласць.

Рэгіянальная Беларусь

## Беларусь чакае пераменаў!

# ЛІЧБЫ ЁСЦЬ, СВАБОДЫ СЛОВА НЯМА

Незалежныя сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі перажываюць цяжкія для сябе часы. Уціск пачаўся адразу пасля прыходу Лукашэнкі да ўлады. Ён абяцаў, што СМІ атрымаюць свабоду. Як гэта рабілася, мы неўзабаве пабачылі. Першай ахвярай стала газета “Свабода”, бо яе публікацыі, на думку ўладаў, “не адпавядалі сапраўднасці”. Затым былі ліквідаваны радыёпраграма “Беларуская маладзёжная”, выданне “Крыніца”. Хутка прыйшоў час і “белых плямаў”, калі сумленныя рэдактары многіх газет пакінулі чыстымі старонкі на тым месцы, дзе хацелі змясціць матэрыял Сяргея Антончыка супраць карупцыянераў з лукашэнкаўскага акалення. Не даваць артыкул у друк загадалі тагачасныя паплечнікі прэзідэнта Аляксандр Фядута і Леанід Сініцын.

Сёння афіцыйная Беларусь з гонарам паведамляе ўсяму свету, што ў нашай краіне 1.113 зарэгістраваных СМІ. З гэтай лічбы 800 – недзяржаўныя. Ці не гэта доказ дэмакратычнасці і плюралізму? Аднак лічбы патрабуюць каментару. 200 недзяржаўных газет выходзяць раз на тыдзень. З гэтай колькасці толькі 50 можна прылічыць да грамадска-палітычных.

Дзяржава падзяліла газеты на “свае” і “чужыя”, журналістаў на «чэсных»”і «нячэсных». Адсюль і фінансавая палітыка. “Свае” атрымліваюць дапамогу ад “вертыкалі”.


Мікола Маркевіч

“Чужыя” штодня рашаюць праблемы выжывання. “Кішэнныя” СМІ у бягучым годзе атрымалі 28 мільёнаў доляраў ад урада на падтрымку.

Галоўная лукашэнкаўская газета “Советская Белоруссия” мае разавы наклад большы, чым усе “чужыя” газеты разам узятыя. Дзяржаўны друк мае танную падпіску, дзякуючы рэгулярнай фінансавай дапамозе ўрада. Тэлебачанне стала папросту палітычнай трыбунай, на якой няма месца грамадскім дзеячам з іншым поглядам на рэчаіснасць. Разбурана беларускамоўнае інфармацыйнае поле. Дзяржава поўнасцю кантралюе дзейнасць сваіх СМІ, вядзе вайну супраць недзяржаўных выданняў.

Вось аб чым гаворыць нібыта вялікая колькасць зарэгістраваных СМІ у Беларусі. Да таго ж, вядзецца жорсткая барацьба з журналістамі, якія не падпарадкоўваюцца ўстаноўкам “вертыкалі”. Яны зволены ці прымушаны да звальнення з працы.

**Мікола Маркевіч**
Гродзенская вобласць.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА – СТРЫЖАНЬ ВЫХАВАННЯ

Кожны народ мае сваю адметную культуру, уласцівыя толькі яму традыцыі. Менавіта нацыянальная культура лучыць людзей, робіць гэтую супольнасць цікавай для іншых народаў.

Сёння культурная спадчына ў Беларусі вынішчаецца. На словах усё добра, але на справе робіцца ўсё, каб людзі адвярнуліся ад яе. У гэтай чорнай справе пэўную ролю адыгрываюць дзяржаўныя СМІ. Вядомы грамадскі дзеяч Грыцкевіч назваў такую з’яву этнацыдам. Нацыянальную культуру спрабуюць падмяніць квазікультурай.

Мы ў Жодзіна пабачылі гэта. Гарадская “вертыкаль” робіць усё, каб спыніць дзейнасць беларускіх адраджэнцаў. Пазакрывалі беларускамоўныя класы, пераследуюцца патрыятычныя няўрадавыя грамадскія арганізацыі, у тым ліку і суполкі Таварыства Беларускай Мовы, ідзе ўціск на выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў бюлетэняў “Мы – ліцьвіны”, “Наш край”.

**Андрэй Лапіцкі**
Мінская вобласць.

# СПРЫЯЦЬ ПРЫВАТНАМУ БІЗНЕСУ

Можна і далей ісці наперад, як дагэтуль крочым сем гадоў. А можна выбраць іншы шлях. Патрэбна перабудова грамадскіх адносін у Беларусі. Упэўнены, што будучыня за намі. Калі вырашым супольна змагацца за свае правы, то пераможам.

Эфектыўны шлях дасягнуць лепшага жыцця – спрыянне развіццю прадпрымальніцтва. Нашы суседзі пацвердзілі гэты тэзіс. У Польшчы, напрыклад, каля аднаго мільёна прадпрымальнікаў. Дзяржава не перашкаджае прыватнаму бізнесу таксама ў дзяржавах Прыбалтыкі, Чэхіі.

У краінах з дэмакратычным ладам жыцця 50-80 працэнтаў бюджэту складаецца з падаткаў, якія выплачваюць прадпрымальнікі. Там вольны гандаль, створаны сапраўдны рынак, пануе ініцыятыва і эканамічная выгада. Вытворцы і пакупнікі паважна адносяцца адзін да аднаго.

А што ў нас? Інакш, як “вшивыми блохами” вышэйшае кіраўніцтва Беларусі прадпрымальнікаў і не называе. Між тым, прадпрымальнікі выплачваюць шматлікія падаткі і гэтыя грошы ідуць на выплаты зарплат работнікам розных галін вытворчасці.

Брэсцкі аблвыканкам сёлета зноў даvёў гараджанам план па нарыхтоўцы сена. Калі не можаш адпрацаваць патрэбны тэрмін – адкупляйся грашыма. Калі дзяржаўныя чыноўнікі не могуць арганізаваць сельскагаспадарчы працэс, то няхай саступаюць месца тым людзям, якія навядуць парадак на зямлі. Прадпрымальнікаў прыдушылі праверкамі, рэгістрацыямі і перарэгістрацыямі. Ёсць міністэрства прадпрынімальніцтва і інвестыцый. Яно створана нібыта для падтрымкі развіцця прыватнага бізнесу. На практыцы гэтага няма. Адно, што ўмеюць, то гэта шкодзіць...

Трэба ўважліва падумаць аб нарыхтоўцы талковых прадпрымальнікаў. Нібыта ёсць каму займацца. Лекцыі чытаюцца, семінары праводзяцца. Аднак, каб яшчэ розуму да гэтага...

Калі не павярнуцца да прадпрымальнікаў тварам, то цяжка будзе вывесці краіну з глыбокага крызісу. Гэта, лічу, Сямёну Домашу трэба мець на ўвазе.

**Мікалай Яроміч**
Брэсцкая вобласць.

# Беларусь чакае пераменаў!

## НЕ ПРЫЗНАЧАЦЬ КІРАЎНІКА, А ВЫБІРАЦЬ ЯГО НАРОДАМ

Кажуць, што “вертыкаль” – новае геніяльнае вынаходніцтва беларускага кіраўніка. А што тут новага? Гэта вяртанне да старой, застойнай савецкай сістэмы кіравання. Мясцовыя органы ўлады пішуць “ліпавыя” справаздачы. Тлумачаць, што пры гэтым кіруюцца толькі думкамі пра агульны ўздым эканомікі. Ні словам не ўзгадваюць пра самакіраванне. Бо яму ў цяперашняй Беларусі папросту няма месца.

Я быў дэпутатам мясцовага Савета. Не раз мы ўздымалі на сесіях пытанні прыпісак, прыводзілі канкрэтныя факты. Шмат спрачаліся, выказваліся розныя пункты гледжання. Нарэшце выканкам прымаў рашэнні.

Цяпер можна пачуць, што беларускі парламент за 1,5 гадзіны прыняў 15 законапраектаў. А раней, маўляў, многа гаварылі, але карысці ад гэтага народ не бачыў. Толькі якую карысць ад цяперашніх “ціхіх” пасядзелак бачыць народ зараз? Усё настолькі цэнтралізавана, што на месцы кіраўнік рай-, гар-, аблсавета без дазволу вышэйшага начальства і кроку не ступіць.

Наспела рэформа мясцовага самакіравання. Улады на гэта не ідуць. Няма самакіравання, значыць, і праблем няма. У суседніх краінах улады перадаюць мясцоваму кіраванню як мага больш паўнамоцтваў. І жыццё там мяняецца на вачах у лепшы бок. У Беларусі па-ранейшаму пануе жорсткая сістэма супадпарадкаванасці.

Грамадскае аб’яднанне “Фонд імя Льва Сапегі” даўно падрыхтаваў пакет законапраектаў па самакіраванню ў Беларусі. У гэтых дакументах спалучаны лепшы вопыт еўрапейскіх краін. Але парламентарыі не даюць яму хады. Не спадабаецца ім, што мы прадугледжваем выбары мясцовага кіраўніцтва ўсім насельніцтвам гэтай мясцовасці. Многія за свае крэслы спалохаліся.

Пакуль не будзе выбарнай змяняемасці, не будзе і парадку ў краіне. Нашаму магчымаму кандыдату ў прэзідэнты Сямёну Мікалаевічу Домашу трэба пра гэта ведаць.

**Уладзімір Шанцаў**
Магілёўская вобласць.

## МЫ ЎСЕ ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ


Тадэвуш Гавін

Тут сабраліся не толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што праблемы далейшага развіцця падзей у Беларусі аднолькава хвалююць усіх нас. Таму мы і сабраліся разам, каб абмеркаваць свае далейшыя крокі.

У гэтым годзе ёсць магчымасць змяніць сітуацыю. Пры ўмове, што мы будзем успрымаць выбары-2001 як сур’ёзную справу, а не чарговы фарс. Беларусь – шматнацыянальная краіна і тут усе павінны жыць дружна і мірна, стаць поплеч, каб палепшыць сваё жыццё і жыццё сваіх дзяцей. Ніл Гілевіч сказаў добрыя словы, прыдатныя для цяперашняй сітуацыі ў нашай краіне: “Нейтральным быць на Беларусі нельга”.

Улады спрабуюць заігрываць з нацыянальнымі меншасцямі. Часам даюць дробныя падачкі. Але часцей жорстка ўмешваюцца ў дзейнасць гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх аб’яднанняў, спрабуюць навязаць свой уплыў, паспрыяць абранню лагодных кіраўнікоў, якіх больш хвалюе ўласны дабрабыт, чым праблемы сваёй нацыянальнай супольнасці.

Сапраўднае развіццё нацыянальных арганізацый можа быць толькі пры дэмакратычнай уладзе.

**Тадэвуш Гавін**
Гродзенская вобласць.

## ПРАБЛЕМЫ ЧАРНОБЫЛЮ НЕ ВЫРАШАНЫ

Святкаванне сёлета Першамая ў Гомелі мне падалося вельмі падобным на ўрачысты парад 1986 года. Радыяцыйная забруджанасць застаецца на высокім узроўні, а ўлады пераконваюць людзей, што ў гэтай зоне можна жыць і працаваць. Праблемы не вырашаюцца, становяцца больш вострымі. Лукашэнка ў вёсцы Савічы сказаў: “Хочаце тут жыць, жывіце”. У той жа час у Расіі і на Украіне з аналагічных месцаў даўно адселены жыхары, бо там дбаюць пра здароўе нацыі.

11,5 тысяч чалавек у нас жыве на тэрыторыі, дзе забруджванне ў шмат разоў перавышае дапушчальнае. У 50-ці працэнтаў дзяцей назіраюцца парушэнні здароўя. Дзесяткі тысяч жыхароў Гомельшчыны стаяць на ўліку ў выніку наступстваў трагедыі ЧАЭС. Моладзь пакідае родны край. Міграцыйныя працэсы пашыраюцца. З 1998 года смяротнасць у нас перавысіла нараджальнасць.

На забруджаных землях вырошчваецца прадукцыя. Напрыклад, у Хойніцкім раёне, дзе ўвогуле нельга займацца сельскай гаспадаркай. Людзі не маюць аб’ектыўнай інфармацыі. І ў той жа час старшае пакаленне галасуе на выбарах за асобаў, якія вінаватыя ў людской бядзе. Лукашэнка нават падлічыў, колькі разоў прыязджаў у Чарнобыльскую зону і сустракаўся з людзьмі. Для яго гэта як шоў для папулярнасці ўласнай асобы. Дзяржаўныя СМІ шырока апавяшчаюць пра гэтыя паездкі. Аднак ніколі не паказваюць палітыкаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў, якія жывуць тут альбо часцяком наведваюць гэтыя землі, прычым не раз на год, а рэгулярна. Яны папросту робяць сваю справу па выратаванні людзей.

Мы ведаем, якія пераўтварэнні трэба правесці ў беларускай частцы Чарнобыльскай зоны, каб жыццё тут стала бяспечным. Але сёння гэта найперш палітычная праблема, а не экалагічная. Нельга дасягнуць паляпшэння, калі ў краіне няма нармальнай эканомікі, згоды паміж грамадзянамі.

**Юрый Варонежцаў**
Гомельская вобласць.

# Беларусь чакае пераменаў!

## КАЛІ НЕ ЦЯПЕР, ТО КАЛІ?

Сябры дзесяткаў няўрадавых грамадскіх арганізацый Віцебшчыны даручылі мне зрабіць паведамленне аб узроўні жыцця насельніцтва нашай вобласці. З дакладаў кіраўнікоў дзяржавы вынікае, што ўвесь беларускі народ цяпер жыве багата і не мае праблем. Узровень жыцця паўсюдна павышаецца. Хутка кожны будзе атрымліваць ажно 100 даляраў зарплаты, а праз пяць гадоў – усе 350. Чым не шчаслівы рай у Беларусі!

Аднак людзі не сляпыя і за словамі бачаць штодзённыя факты: цэны растуць, інфляцыя не змяншаецца, зарплаты дастаткова, каб некалькі разоў зайсці ў магазін. У мінулым годзе ў краіне было 42 працэнта жабракоў. Даход гэтых людзей дазваляе толькі існаваць, не кажучы пра нармальнае жыццё. На Гомельшчына на сакавік 2001 года 667 (49 працэнтаў) прамысловых і 67 працэнтаў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў – стратныя. Расце запазычанасць гэтых прадпрыемстваў іншым удзельнікам так званай беларускай мадэлі "рынкавага сацыялізму". Прычым, рост на 92 працэнта ў прамысловасці і на 90 працэнтаў – у сельскай гаспадарцы. Зношанасць асноўных фондаў дасягае адпаведна 82 і 80 працэнтаў. Пра які росквіт Беларусі пры Лукашэнку можна гаварыць! А вось дзяржаўныя газеты і радыё гавораць штодня, пераконваюць, што белае – гэта чорнае і наадварот.

За сем гадоў "кіравання" Лукашэнкі беларусы сталі жыць вельмі дрэнна. Эканамічныя паказчыкі скаціліся ўніз. Да поўнага краху засталося нядоўга. Калі не спыніць гэты спад, то спраўдзяцца словы Лукашэнкі, што беларусы будуць "жыць бедна, але не доўга".

У нас ёсць магчымасць паправіць становішча. Але для гэтага трэба абраць прэзідэнтам чалавека, які здолее згуртаваць народ, вярнуць яму веру ў будучыню, вызначыць першачарговыя задачы вяртання Беларусі ў цывілізаваны свет. Рэгіёны краіны вызначыліся са сваім магчымым кандыдатам.

**Хрыстафор Жэляпаў**
Віцебская вобласць.

## ЯК ПАПРАЦУЕМ, ТОЕ І МЕЦЬ БУДЗЕМ


Рыгор Бакіевіч

У гэтай знакамітай зале летам мінулага года праходзіў Усебеларускі з'езд дэмакратычнай грамадскасці, на якім быў ухвалены Акт Незалежнасці Беларусі. Наш магчымы кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш быў сярод дэлегатаў.

Мы спынілі свой выбар менавіта на асобе Сямёна Мікалаевіча. Добра ведаем гэтага прынцыповага чалавека. Выкінуты з пасады старшыні Гродзенскага аблвыканкама за нежаданне падпарадкоўвацца супрацьнародным дзеянням Лукашэнкі, ён не здаўся. Здолеў знайсці аднадумцаў, згуртаваць іх напачатку ў Каардынацыйным камітэце "Гродзенская ініцыятыва", а затым у рэспубліканскай Каардынацыйнай Радзе "Рэгіянальная Беларусь". У гэтым бачыцца яго воля да перамогі, выдатныя арганізатарскія здольнасці. А мы пераканаліся, што аб'яднаныя рэгіёны – уплывовая сіла. Гэта пабачыла ўся беларуская супольнасць.

Наша "Берасцейскае пагадненне" лучыць каля 20 дэмакратычных няўрадавых грамадскіх арганізацый. Створаны свой інфармацыйны цэнтр. Ёсць поспехі ў паўсядзённай тлумачальнай рабоце. Вынікі гэтай працы мы назіралі ў час выбараў у так званую палату прадстаўнікоў. З трох выбарчых акругаў Брэста выбары не адбыліся ні ў адным.

Лукашэнка страшна баіцца незалежнага назірання за ходам будучых прэзідэнцкіх выбараў. Ведае, што паўсюднае махлярства будзе выкрыта. Таму і разгорнута жорсткая кампанія супраць арганізацыі назірання грамадскімі прадстаўнікамі. Нам жа назіранне патрэбнае і мы яго арганізуем. Няхай сусветная грамадскасць на ўласныя вочы яшчэ раз пабачыць "дэмакратызм" беларускіх уладаў.

Мы здолеем сабраць патрэбную колькасць галасоў, неабходных для вылучэння нашага кандыдата ў прэзідэнты, здолеем правесці патрэбную агітацыю. А пасля паглядзім, наколькі спрацавала наша папярэдняя падрыхтоўка.

**Рыгор Бакіевіч**
Брэсцкая вобласць

## ЭКАЛОГІЯ – НЕ ТОЛЬКІ ПРЫРОДА...

Я пераехаў у свой час з Чарнобыльскай зоны. Пабачыў у жыцці рознае. Але ніколі не адчуваў такой трывогі за будучыню Беларусі. Часцяком узнікаюць пытанні: чаму грамадзяне краіны так кепска жывуць? Чаму паволі канае дзяржава? Чаму людзі сталі такімі жорсткімі адзін да аднаго?..

Безліч пытанняў. Адказ адзін – віна кладзецца на цяперашняе кіраўніцтва Беларусі і персанальна на Аляксандра Лукашэнку як гаранта Канстытуцыі. Сёння толькі ён адзіны жыве па-людску. Што і казаць – Бацька!

А нас з кожным годам усё менш. Было 10 мільёнаў грамадзян, а цяпер колькасць жыхароў рэспублікі пачала хутка змяншацца.

Яны ж даводзяць да ручкі і экалагічны стан. А гэта псіхалогія чалавека, яго ўраўнаважанасць. Наша Беларуская партыя "Зялёных" якраз садзейнічае гарманізацыі чалавека і прыроды. Праблем тут безліч. Урад рэспублікі робіць выгляд, што ўсё добра, пра гэта паведамляе грамадзянам праз свае "кішэнныя" СМІ...

Я даўно супрацоўнічаю з Сямёнам Домашам у Каардынацыйнай Радзе "Рэгіянальная Беларусь". Ведаю, як яго хвалюе стан навакольнага асяроддзя. Не сумняваюся, што ў выпадку абрання прэзідэнтам, Сямён Домаш здолее прыняць захады для паляпшэння экалогіі краіны.

**Алег Грамыка,**
старшыня Беларускай партыі "Зялёных".

# БЕЛАРУСЫ НЕ БЫЛІ БЕДНЫМІ

От ад нашых уладаў чуем толькі плач, якія мы бедныя, нічога свайго не маем, таму трэба з брацкай Расіяй жыць у адной дзяржаве, каб не хадзіць з жабрацкай торбай...

Але ж хітрыкуюць нашы правіцелі, падманваюць народ. І гэтым самым апраўдваюць сваю бездапаможнасць і няўменне наладзіць працу. Зусім не бедныя мы. Паглядзіце: мы ў пяцёрцы самых найбольш прыдатных для жыцця еўрапейскіх краін. Толькі з нашых выкапняў можна жыць і пажываць. Возьмем харчовую соль ці калійную, якую купляюць 54 краіны свету. Нафты з 1965 па 1998 год напампавалі амаль 30 мільёнаў тон. Багатыя мы і лесам. Іншая справа, што прадаём яго без перапрацоўкі, за капейкі. Палічым, колькі можам мець за выкарыстанне чужыніцамі ваенных баз, газа- і нафтаправодаў, пралётаў над нашай тэрыторыяй і праездзе нашымі дарогамі...


Алесь Белакоз

Калі ўсе здабыткі разам скласці, то атрымліваецца вельмі прыстойная сума ў доларах на аднаго жыхара Беларусі. А вось дзе грошы, запытаеце? Не ведаю. Гэта я калісьці хацеў даведацца ў нябожчыка Арцымені, то ён мяне выганяў з кабінета. Калі на яго месца старшыні Гродзенскага аблвыканкама заступіў Сямён Домаш, то мы шмат разважалі над гэтай праблемай. І вырашылі, што яе рашэнне наперадзе. Тады, калі да ўлады прыйдзе асоба, зацікаўленая найперш у росце дабрабыту кожнага беларуса, абароне нацыянальных інтарэсаў, а не ў танным распродажы нашага багацця іншаземным багацеям.

Я асабіста бачу такой асобай Сямёна Мікалаевіча Домаша.

**Алесь Белакоз,**
Заслужаны настаўнік Беларусі.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## з'езда грамадскасці рэгіёнаў Беларусі



***Мы, прадстаўнікі грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, прааналізавалі стан, у якім знаходзіцца наша краіна, і канстатуем, што за апошнія сем гадоў адбылося значнае пагаршэнне ўзроўню жыцця людзей. Працягваецца развал прамысловасці, сельскай гаспадаркі, фінансавай сістэмы. Негатыўныя працэсы пашыраюцца ў сацыяльнай сферы, культуры, адукацыі, навуцы, ахове здароўя, ва ўнутранай бяспецы і сферы міжнародных зносін. Пагоршыліся адносіны нават з Расіяй. Мы ўступілі ў перыяд дэмаграфічнага крызісу і сацыяльнай дэградацыі. Раскол у беларускім грамадстве стаў больш глыбокім і відавочным. Асаблівую трывогу выклікае адсутнасць перспектываў для моладзі, яе маральны стан. Традыцыйным стала цкаванне беларускай інтэлігенцыі і прыніжэнне яе годнасці.***

Асноўнай прычынай гэтых негатыўных працэсаў з'езд лічыць разбуральную палітыку, якую праводзіць сённяшняе кіраўніцтва Беларусі.

Цяперашнія ўлады прыціскаюць праявы ўсіх дэмакратычных тэндэнцый у грамадстве. Дзяржава, выкарыстоўваючы спецслужбы, органы унутраных справаў, суды і пракуратуру, вядзе жорсткую барацьбу з грамадскімі арганізацыямі, прадпрымальніцтвам, апазіцыйнымі палітычнымі партыямі і недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі.

Ужо відавочна, што вярнуць Беларусь на шлях прагрэсіўнага цывілізаванага развіцця магчыма толькі ў выніку прыходу да ўлады дэмакратычнага прафесійнага кіраўніцтва на чале з новым прэзідэнтам Беларусі. Толькі новае кіраўніцтва зможа ініцыяваць шырокі працэс аднаўлення на карысць беларускага грамадства.

Мы падтрымліваем пагадненне пяці магчымых кандыдатаў: Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Паўла Казлоўскага, Сяргея Калякіна, Міхаіла Чыгіра, а таксама намаганні КРДС, скіраваныя на кансалідацыю грамадства і вылучэнне адзінага кандыдата.

Усведамляючы, што будучыя прэзідэнцкія выбары могуць мець вырашальнае значэнне для далейшага лёсу Беларусі, яе народа і будучых пакаленняў, мы, прадстаўнікі грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, заяўляем пра свой актыўны удзел у будучай прэзідэнцкай кампаніі і выказваем сваю падтрымку магчымаму кандыдату – Сямёну Домашу. Мы ўпэўнены, што ён разам з камандай прафесіяналаў, якія падзяляюць нашыя погляды, здольны вывесці краіну з крызісу, забяспечыць дабрабыт людзей і вяртанне беларускага грамадства ў еўрапейскую супольнасць.

Заклікаем усіх грамадзян Беларусі падтрымаць нашу Рэзалюцыю і аб'яднацца дзеля будучыні нашай Бацькаўшчыны. Толькі разам мы зможам перамагчы на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах і змяніць наша жыццё да лепшага.

26 мая 2001 года
г. Мінск.

## ПАДЗЕІ. ФАКТЫ. МЕРКАВАННІ.

# СПАСИБО, СЕМЕН НИКОЛАЕВИЧ!

Хочу передать благодарность и низкий материнский поклон претенденту на должность главы государства господину Семену Домашу за добрые слова, сказанные им на пресс-конференции в адрес моего сына, депутата Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, члена ОГП, политзаключенного Андрея Климова.

Я, инвалид 2-й группы, находилась в то время в больнице, и добрые слова С.Домаша помогли мне, наверное, больше, чем все лекарства и уколы, вместе взятые...

С уважением
**Алла Петровна КЛИМОВА,**
мать Андрея Климова.

**“РБ”.** Старшыня Каардынацыйнай Рады “Рэгіянальная Беларусь” Сямён Домаш ведае Андрэя Клімава па сумеснай рабоце ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання. Перакананы, што судовая справа супраць гэтага дэпутата была сфабрыкавана.

Пры ўмове свайго абрання на пасаду прэзідэнта Сямён Домаш даў слова, што ў першы ж дзень будзе ініцыяваць перагляд справы і вызваленне палітзняволенага Андрэя Клімава.



# «ПЯЦЁРЦЫ» – ПЯЦЁРКА!

Пяцёрка магчымых прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі (Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір) дамовіліся аб каардынацыі дзеянняў для перамогі на прэзідэнцкіх выбарах-2001.

Магчымы кандыдат у прэзідэнты, старшыня Каардынацыйнай Рады “Рэгіянальная Беларусь” Сямён Домаш выклаў сваё бачанне аб’яднання высілкаў пяцёх вядомых беларускіх палітыкаў:

“У вядомым сэнсе, у нашай пяцёрцы не толькі тыя, хто знаходзіцца ў апазіцыі да рэжыму, але і тыя, да каго рэжым знаходзіцца ў апазіцыі. Тут важна падкрэсліць: гэта не блок, не кааліцыя. Хутчэй, скажам так, саюз людзей, якія дамовіліся аб каардынацыі дзеянняў у час перадвыбарчай гонкі. Усе ж разумеюць, з кім прыйдзецца мець справу...

Магчыма, з нашай пяцёркі вылучыцца і адзіны кандыдат. Пакуль сышліся на тым, што называць яго імя рана...”.

Сямён Домаш падкрэсліў, што свае прынцыпы вядомыя палітыкі выклалі ў сумеснай заяве. Найперш – гэта вывад краіны з катастрафічнага крызісу, пад’ём эканомікі, павышэнне дабрабыту людзей, пераадоленне беднасці і галечы, забеспячэнне правоў і свабод грамадзян, барацьба са злачыннасцю, ліквідацыя чыноўніцкага бязмежжа і карупцыі, умацаванне мясцовых Саветаў і органаў самакіравання, пераадоленне міжнароднай самаізаляцыі Беларусі...

**Уладзімір Кавалёў**

# КАБ ПЕРАМАГЧЫ, ТРЭБА АГІТАВАЦЬ

***13 мая ў Гродне адбыўся чарговы навучальны семінар на тэму “Выбарчае заканадаўства Рэспублікі Беларусь: прынцыпы праваприымянення”.***

На гэты раз увага надавалася юрыдычным аспектам правядзення агітацыйнай кампаніі прэзідэнцкага выбарчага працэсу 2001 года ў адпаведнасці з выбарчым заканадаўствам Беларусі. Тэму раскрылі эксперт, сябра праўлення Беларускага цэнтра канстытуцыяналізму Сяргей Альфер і кандыдат філасофскіх навук, прадстаўніца Незалежнага таварыства палітычных даследаванняў Ірына Бугрова.

Юрыст, сябра рэспубліканскага грамадскага аб’яднання “Адкрытае грамадства” Міхаіл Пліско засяродзіў свой выступ на праблемах правядзення назірання за хадой выбарчай кампаніі і выбарамі, выбарчых спрэчках.

Удзел у дыскусіях прымалі ўсе прысутныя. Яны атрымалі брашуры, падрыхтаваныя Беларускім цэнтрам канстытуцыяналізму і параўнальна-прававых даследаванняў, у прыватнасці, “Выбарчы кодэкс: разуменне і асноўныя стадыі”, “ СМІ у перыяд выбараў”, “Выбарчыя камісіі: сістэма, прававы статус, парадак фармавання”, “Выбарчыя спрэчкі”, “Прававы статус грамадзяніна ў выбарчай сістэме”, “Інстытут назіральнікаў: праблемы тэорыі і практыкі”.

**Сцяпан Яращчук**

Бюлетэнь
Каардынацыйнага камітэта
«Гродзенская ініцыятыва»

Выдаецца на беларускай мове.
На правах унутранай дакументацыі
распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас: 230023 г. Гродна, вул. Будзённага, 48-а, п.74 тэл./факс. 47-09-93
E-mail: domash@ratusha.grodno.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Ул. Кавалёў
Камп'ютарная вёрстка А. Кір'яцкі
Надрукавана пры падтрымцы
ГАГА «Ратуша»